


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 29(39) • 4—10 ВЕРАСНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

*Спрэчкі наконт змены алфавіта лічу несур'ёзнымі.* Стар. 2.

*«Адбылося тое, чаго мала хто чакаў: узбунтавалася найбольш таленавітая частка самых маладых беларускіх літаратараў»* С. 3.

*Хітрамудры план Адысея...* Стар. 4.

## Поступ тыдня

***ПАЧАЎСЯ НЕЧАРГОВЫ З'ЕЗД НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ КРАІНЫ. БЕЛАРУСКІ НАРОД СПАДЗЯЕЦЦА, ШТО БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ БУДЗЕ ПРЫНЦЫПОВА І МУДРА ВЫРАШАЦЬ НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ПЫТАННІ НАШАГА ЖЫЦЦЯ.***

ПРЭЗІДЫУМ Вярхоўнага Савета рэспублікі стварыў Часовую камісію беларускага парламента па ацэнцы дзеянняў членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання, службовых асоб і грамадзян. Камісія надзелена неабходнымі паўнамоцтвамі і прыступіла ўжо да работы.

ДЗЯРЖМАЕМАСЦІ БССР і Дзяржэканамплану сумесна з рэспубліканскай пракуратурай даручана да 1 кастрычніка г. г. унесці прапановы аб нацыяналізацыі ўласнасці КПБ — КПСС і ЛКСМБ. На перыяд прыпынення дзейнасці кампартыі і камсамола забаронена падрыхтоўка і правядзенне сходаў, канферэнцый, пленумаў, з'ездаў, іншых аргмерапрыемстваў. Партыйным кіраўнікам і адказным работнікам дазволена прыходзіць на свае рабочыя месцы, калі памяшканні, у якіх яны знаходзяцца, не апячатаны. Многія з іх ужо шукаюць іншую работу. У друку выказваюцца прапановы стварыць ініцыятыўную групу па арганізацыі кампартыі новага тыпу.

ПРЭЗІДЫУМ Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прыняў рашэнне правесці ў верасні Дні адзіных прафсаюзных дзеянняў за правы і інтарэсы працоўных. Такое мерапрыемства праводзіцца ў рэспубліцы ўпершыню. Яго мэта — прыцягнуць увагу органаў заканадаўчай і выканаўчай улады да навісшых праблем у сферы рэгулявання, аховы правоў працоўных.

СТАТЫСТЫКА сведчыць: за паўгоддзе сёлета прададзена бульбы на 19 працэнтаў меней, чым летась за такі ж час, гародніны — на 9 працэнтаў. Зменшылася пастаўка ўсіх харчовых і прамысловых тавараў: баваўняных тканін і піламатэрыялаў — у два разы, шыферу — на 27 працэнтаў... Улічана, зразумела, усё, што прададзена як з прылаўкаў, так і з баз. А якія ж будуць паказчыкі, калі ўзяць толькі тое, што папала ў свабодны продаж?..

## ПАЧАЎСЯ НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД.

### Будзем вучыцца: грамаце, дэмакратызму, любові да Айчыны!

Сёдлета ва ўсіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установах дысцыпліны сацыяльна-палітычнага цыкла па ўсіх спецыяльнасцях, акрамя тых, дзе гэтыя дысцыпліны з'яўляюцца прафіліруючымі, пераведзены ў разрад факультатыўных, экзамены па іх адменены. Разглядаецца пытанне аб мэтазгоднасці існавання і структуры кафедр тэорыі і практыкі сацыялізму, палітычнай гісторыі і г. д.

### *Пытанне — адказ*

Шаноўная рэдакцыя!

Дапамажыце мне, калі ласка, знайсці адрас рэдакцыі беларускамоўнай газеты «Беларус», якая выходзіць у Нью-Йорку. Шмат хто чуў пра яе, але амаль ніхто не чытаў, таму знайсці адрас даволі цяжка. Папярэдне Вам вельмі ўдзячны.

Дзмітрый САМАХВАЛАЎ, г. Мінск.

*Мы публікуем і далей плануем змяшчаць кароткія агляды беларускамоўных выданняў, якія выходзяць за межамі Беларусі. Адным з такіх выданняў з'яўляецца газета «Беларус» у Злучаных Штатах Амерыкі. Яе рэдактар д-р Янка Запруднік. Адрас рэдакцыі: P. O. Box 178, Jamaica, N. Y.11432, U.S.A. Надалей плануем разам з інфармацыяй пра тыя ці іншыя замежныя выданні змяшчаць таксама адрасы іх месцазнаходжання.*

*Л. Б.*

## Барацьба яшчэ наперадзе!

29 жніўня на пляцы перад Домам урада па ініцыятыве БНФ сабраліся тысячы жыхароў Мінска, каб адзначыць дзевяты дзень жалобы па масквічах, якія аддалі свае жыцці, абараняючы «Белы дом» і дэмакратыю ад камуністычнай хунты.

Мітынг адкрылі малітвай па забітых праваслаўны і уніяцкі святары Георгій Латушка і Ян Матусевіч. Да прысутных з кароткімі прамовамі звярнуліся народныя дэпутаты БССР Сяргей Навумчык і Валянцін Голубеў. Яны паведамілі, што ў час путчу рыхтаваліся ў Расіі 300 тысяч ордэраў на арышт і 250 тысяч кандалоў. У Мінску былі падрыхтаваны спіскі дэмакратычна настроеных людзей і цяплушкі для іх вывазу.

Затым адбылося шэсце да апячатанага будынку ЦК КПБ, каля якога прайшоў мітынг. Першым выступіў народны дэпутат БССР Яўген Новікаў, які сказаў, што ў будынку ЦК за ўвесь час яго існавання не працавала ні аднаго чалавека, які б думаў пра дабрабыт свайго народа. Уся палітычная барацьба яшчэ наперадзе, бо і сёння намі кіруюць тыя ж людзі, што і раней. Як ніколі нам патрэбна палітычная раўнавага. Камуністы, падтрымаўшы незалежнасць Беларусі, спадзяюцца ўтрымацца ля сваіх карыт і правіць намі.

Прывёўшы выказванне Зянона Пазьняка, што камунізм нарадзіўся на нашай зямлі і на нашай зямлі сканае, народны дэпутат БССР Лявон Баршчэўскі выказаў упэўненасць, што ў нас камунізм сканае раней, чым на Кубе, у В'етнаме і Карэі. Для гэтага ёсць усе падставы — перамога над хунтай. Каб замацаваць перамогу, патрэбна правесці новыя выбары ў Вярхоўны Савет.

Прадстаўнік Мінскага стачкама Уладзімір Феакціставў выказаў шкадаванне, што 19 жніўня масквічы даведаліся толькі пра падтрымку ГКЧП Малафеевым і яго клікай, а не пра падтрымку рабочымі абаронцаў «Белага дома». Феакціставў заклікаў аддаць пад суд усіх, хто сваімі дзеяннямі падтрымаў ваенна-камуністычную хунту.

Першы намеснік старшыні Мінгарсавета Анатоль Гурыновіч зачытаў Зварот да грамадзян Беларусі ўдзельнікаў рэспубліканскай нарады дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі ўсіх узроўняў, у якім гаворыцца пра неадкладнае вяртанне маёмасці КПБ — КПСС народу, пра патрабаванне адстаўкі Дашкука Л. А., Сталярова А. Р., Краўчанкі П. К., Тарнаўскага Г. С., Баганкевіча С. А.

Пра тое, што яшчэ рана святкаваць поўную перамогу, папярэдзіў у сваім выступленні Зянон Пазьняк. Ён заклікаў людзей падтрымаць актыўнымі дзеяннямі рашэнні нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, бо камуністы, якія згубілі сваю ўладу, яшчэ могуць паспрабаваць вярнуцца да яе, каб мы зноў былі іх рабамі.

Адбылося абмеркаванне і іншых надзённых пытанняў грамадскага і культурнага жыцця рэспублікі.

Віктар ШНІП.



У Мінскім дыягнастычным цэнтры адбылася перадача медыцынскага абсталявання, якое дастаўлена з Японіі дэлегацыяй горада Сендая. Кіраўнік дэлегацыі намеснік мэра горада пан Тадао Сасакі падкрэсліў, што ўстаноўка для дыягностыкі сардэчна-сасудзістай сістэмы «Алока-870» і эндаскапічнае абсталяванне фірмы «Алімпус» — самыя сучасныя з тых, што існуюць сёння ў свеце.

Абсталяванне, якое падарыў горад-пабрацім, дапаможа падняць на новы якасны ўзровень абследаванне жыхароў горада Мінска і рэспублікі.

НА ЗДЫМКУ: у час перадачы медыцынскага абсталявання дыягнастычнаму цэнтру.

Фота Яўгенія КАЗЮЛІ (БЕЛТА).

## *ЗБІРАЕМ ГРОШЫ НА ПОМНІК*

Першыя складкі ў Лідзе на пабудову помніка Францішку Скарыне паступілі ад калектываў абутковай фабрыкі, завода «Оптык», жыллёва-камунальнай гаспадаркі, педагагічнага і музычнага вучылішчаў, гаркама і райкама камсамола, першасных суполак ТБМ сярэдніх школ, дзіцячых садкоў.

З ініцыятывай пабудовы помніка выступіла Лідская гарадская рада ТБМ імя Францішка Скарыны. Той, хто жадае, можа дапамагчы ў пачэснай справе, пералічыўшы грошы на разліковы рахунак № 000700873 Лідскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы ў аддзяленні Жылсацбанка г. Ліды.

Міхась МЕЛЬНІК, старшыня Лідскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны, дэпутат Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

## *Новая беларуская проза*

Амаль усе самыя адметныя творы беларускай мастацкай прозы савецкага часу напісаны сялянскімі сынамі, якія сталі гараджанамі. У новы свой жыццёвы асяродак яны прынеслі найкаштоўнейшы скарб — прыродны талент і жывую народную мову, але і тое, што для большасці (відаць, пераважнай) даволі хутка стала тормазам для паўнацэннага прафесійнага развіцця, — гэта прамое ці ўскоснае прыстасавальніцтва да нормаў паводзін гарадскога чыноўніцтва, якое ва ўсім падраблялася пад сваіх начальнікаў з цэнтра імперыі. Сацыяльная школа ў дзяцінстве — калгасна-прыгонная рэчаіснасць — для вельмі многіх аказалася літаратурным лёсам. А канфармізм — ці не самая небяспечная хвароба для мастацтва (не рамесніцтва!). У выніку нацыянальная літаратура, папярэдне скалечаная яшчэ і бальшавіцкім тэрорам, пачала катастрафічна губляць чытача. Пра тое, што прычына ўсё ж галоўным чынам ў прыстасавальніцтве і мастацкіх падробках творцаў, — сведчыць і высокі чытацкі рэйтынг пісьменнікаў, якія змаглі пераадолець у сабе канфармізм (Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч), і ўстойлівы даволі высокі попыт на беларускамоўныя пераклады бестселераў замежнай прозы. Моўнае ж разбурэнне вёскі («трасянка»!), здавалася, амаль не пакідала шанцаў і для паўнацэннага развіцця нацыянальнага беларускага прыгожага пісьменства ў будучым.

Тады адбылося тое, чаго мала хто чакаў: узбунтавалася найбольш таленавітая частка самых маладых беларускіх літаратараў. У выніку ўзнікла суполка, якая іранічна назвала сябе «тутэйшымі». Хоць яе сябры востра адчувалі сваю нацыянальную прыналежнасць. Адбылося і непазбежнае ў такіх выпадках адмаўленне ад мастацкага вопыту старэйшай савецкай літаратурнай генерацыі, якая звязала сябе (у тым ліку арганізацыйна) з дзяржаўнымі таталітарнымі структурамі. Адмаўлялі іхняй «эпапейнасці», звыш сур'ёзнасці ў апісанні жыццёвых сітуацый, як быццам праўдзівых нават, але якія (ва ўсякім разе большасць) і сапраўды ў наш час ужо успрымаюцца зусім у іншым святле. Нават такая як быццам нейтральная рэч як правапіс, граматычныя нормы і то ставяцца пад сумненне, таму што былі выпрацаваны папярэднікамі ў таталітарна-бальшавіцкіх умовах. Іронія, у тым ліку самаіронія, гратэск становяцца найбольш адметнымі рысамі прозы (пра паэзію і крытыку скажам іншым разам) «тутэйшых». Больш паспяхова, хоць і не без перахлёстаў, чымся іхнія закамплексаваныя сацыялістычным выбарам і непазбежнай таталітарна-камуністычнай перспектывай літаратурныя «бацькі», пачынаюць яны спасцігаць і дасягненні сучаснага сусветнага культурнага вопыту, успрымаць тое, што называецца ўскоснай эстэтыкай і этыкай Кафкі. І само сабою — псіхааналіз Зыгмунда Фрэйда з ягоным інтэнсіўным пошукам сродкаў выратавання чалавечага самім чалавекам, атручаным канфармізмам. Ідзе засваенне мастацкіх прыёмаў, здольных выклікаць у чытача глыбіннае ўсведамленне ўласных паводзін, з тым, каб зразумеўшы сябе, той змог мэтанакіравана зрабіць этычныя высілкі, выклікаць у сабе энергію сублімацыі — пераразмеркаваць энергію жаданняў нізкага, звярынага, на вышэйшае, вартае чалавека культурнага, цывілізаванага. Прычым знешне гэта нярэдка падаецца як літаратурная гульня. Канечне, у некага гэта і сапраўды застаецца толькі гульнёю сноба ці графамана, якому ўвесь час свярбіць нешта пісаць. Мы прывыклі, што такімі мастацкімі прыёмамі карыстаецца сучасная заходняя літаратура, але яшчэ вельмі насцярожана ставімся да таго, што цяпер вось і наша новая (назавём яе так) беларуская проза усе больш упэўнена пачынае ўлівацца ў культурнае рэчышча астатняй Еўропы.

Эрнэст Ялугін.

*Адам ГЛОБУС*

# *Латвійскі дэтэктыў*

## Апавяданне



У МЯНЕ ЎКРАЛІ парасон. Не такая ўжо і вялікая страта. Але са знікненнем парасона ўзнікла шмат непрыемнасцей. Яго знеслі якраз тады, калі ішоў нудны дождж, а прыдбаць парасон у крамах было немагчыма, яго можна толькі дастаць у перакупшчыкаў за суму, якая набліжаецца да майго месячнага заробку. У мяне знік парасон, і першае, што прыйшло на розум,— я цэлыя чатыры тыдні працаваў дарэмна. Толькі не думайце, што я лайдак і не магу за месяц зарабіць на два парасоны. Магу. Парасон сёння каштуе тысячу рублёў, маецца на ўвазе добры мужчынскі парасон, да якога і прырабілі ногі. А ў перавodзе на даляры гэта будзе азначана меншай лічбаю, прыблізна трыццаць тры. Я знарок напісаў трыццаць тры, гэта мой узрост, мне якраз столькі год. Акрамя свайго парасона, я люблю свае кнігі, свой Менск пад бел-чырвона-белым сцягам, сваю котку і, самае галоўнае,— люблю сябе. І не збіраюся гэтага хаваць; хто не любіць сябе, той наогул не здольны нікога палюбіць. А тут раптоўна па маім самалюбстве нанеслі нямоцны, але дакладны ўдар.

Толькі трэба вярнуцца, і я пачну нявыдуманую крымінальную гісторыю без нябожчыкаў і паліцыянтаў ад самага пачатку.

Адпачываць люблю або ў чэрвені, калі курорты не паспелі згубіць вясновую чысціню і свежасць, ці ў верасні, калі ўжо няма на пляжах крыклівых дзяцей і іх раздражнёных бацькоў. На гэты раз мне дасталася пуцёўка ў Латвію на чэрвень. Выдатна. Люблю камфорт: гарачы душ, два пакоі, лоджыя, басейн, корт... І гэта было абяцана, і ўсё я займеў, акрамя сонечнага надвор'я. Але тут вы памыляецеся, як і ўсе чытачы дэтэктываў, мне без розніцы, якое надвор'е, калі корт і басейн пад надзейным дахам, а на штодзённы шпацыр можна схадзіць пад надзейным парасонам.

І вось Латвія — краіна чужая, паўночная, але ж напоўненая германскай містыкай і латгальскай цнатлівасцю. Латвія вельмі алейная і жывапісная побач з такімі аскетычнымі суседзямі, як вітражная даўгатвярая Літва ды графічная чорна-блакітная Эстонія. Латвійскую жывапіснасць я ўбачыў выпадкова: важкія сасновыя калодкі свяціліся мядовай чырванню на смарагдавай, насычанай вільгаццю траве. Я не гавару пра Рыгу, горад, дзе сышліся ў двубоі імперскія ідэі — расейскі шавінізм і германскі мілітарызм. Яны сутыкнуліся і высеклі іскру — у металёвым абветраным горадзе нарадзіўся мастак, які займаўся кінафікацыяй сусвету і стварыў мантаж атракцыёнаў. У Рызе нарадзіўся Сяргей Эйзенштэйн. Рыга не жывапісная і не алейная, і не латышская, як не германская і не расейская... Рыга — вольны горад-брама. І мне даспадобы адпачываць пад Рыгаю ў Юрмале. Я — істота ўрбаністычная, бункерская, але ўсё ж патрэбна раз на год пашпацыраваць уздоўж мора і адчуць бязмежнасць прасторы, напоўніцца тым гарызантальным плоскасным спакоем, які можа даць адно марскі далягляд у штыль.

У першыя тры дні майго адпачынку ішоў дождж, самы звычайны дробны прахалодны дождж. Я выходзіў два разы на дзень пад шаўкавіста-атрамантавым парасонам на доўгі шпацыр і наведваў усе, што траплялiся на вочы, кавярні. Кава — маё слабое месца, ахілесава пята ў маіх гурманістычных запатрабаваннях. Я магу есці амаль усё, што ні паставяць на стол еўрапейскія кухары, магу абмежавацца і нават выкрасліць на колькі тыдняў са свайго рацыёну алкаголь, але не ўяўляю сябе без кубачка моцнай, хай сабе і адносна добрай, кавы. Кавярні ў Юрмале на кожным кроку, яны розныя, а шукаеш самую лепшую. Я не палітык, які з дзвюх непрыемнасцей выбірае найменшую, і я пазбягаю непрыемнасцей, і калі ў кавярні пытахае смажаным падгарэлым тлушчам або прадаюць гарэлку замест бальзаму і каньяку, сыходжу адразу, нават і не спыняюся каля стойкі. У кавярні са шматабяцальным назовам «Арабіка» пахла каньяком і каваю, гэта дастатковы мінімум, каб скласці парасон і паставіць яго ў кут. Памылка. Зразумела, на кожным курорце злодзей сядзіць побач са злодзеем, п'е каву. Калі нехта адпачывае, нехта павінен працаваць.

З РЭШТЫ, ЗЛАДЗЕЙСТВА — не праца і не адпачынак, зладзейства — асалода. Паверце майму нешматлікаму вопыту. Па сваёй прыродзе я злодзей, самы натуральны, ад нараджэння. Я злодзей па сваёй сутнасці, бо падчас зладзейства атрымліваю эратычную асалоду. Крадзяжамі я займаўся раней, цяпер не займаюся, знайшоў іншае месца для ўкладання сваёй патэнцыі, а ў юнацтве я краў. Мне цяжка, паверце, мне сапраўды сорамна прызнавацца ў дробных, але такіх гідкіх грахах. Краў я паштоўкі, толькі паштоўкі. Заходзіў у кнігарні, набліжаўся да вітрыны, выбіраў пачак якасных рэпрадукцый і... Не ўцякаў, не засоўваў у кішэнь, не хаваў у папку, а трымаў у руцэ і шукаў вачыма прадаўшчыцу. Позіркі сустракаліся — самы адказны момант. Я адчуваў, як азначалася розніца полаў, натуральным чынам адчуваў кайф і ў дадатак разумеў, што жанчына па другі бок прылаўка таксама перапоўнена эратычным пачуццём. Ад яе нават пачынаў сыходзіць вельмі спецыфічны, ні з чым не параўнальны, ледзь чутны пах — водар жанчыны. Я ўспрымаў гэты павеў як знак і павольна паварочваўся да ахвяры спінаю і зносіў з крамы неаплочаныя паштоўкі. У адной і той жа краме я ніколі не парушаў спакой двойчы. Мае ўчынкі былі містычным актам разбурэння цнатлівасці, і я адчуваў, што другі раз цуд не адбудзецца, мой метад непаўторны, яго нельга множыць. Я збіраў паштоўкі з рэпрадукцыямі жывапісу, з захапленнем разглядаў маленькіх папяровых Тыцыянаў і Вермераў. І, здавалася, маім крымінальным подзвігам не будзе канца, а калекцыя будзе павялічвацца і пашырацца. Але аднойчы ў Менск прывезлі з Германіі палотны старых майстроў. Арыгіналы Батычэлі, Джарджоне, Вермера развесілі па залах у музеі. І каля невялікага палатна Джарджоне «Сон Венеры» я зразумеў, што ніколі ў жыцці ў мяне не хопіць таленту ўкрасці гэтае палатно, а паштоўкі — пыл, смецце, дрэнь. Больш я ніколі нічога не збіраў. І цяпер люта не люблю ўсіх калекцыянераў, яны бяздарныя, яны здатныя грэбці толькі пад сябе. А вось пра зладзеяў так не скажу, іх шкадую, бо разумею ўсю сілу пачуццяў, усю іх вастрыню падчас здзяйснення амаральных задум. І таму ў свеце раскрываецца толькі кожнае чацвёртае злачынства. Сярод зладзеяў больш таленавітых людзей, чым у клане дэтэктываў. Вельмі сумны факт, калі зірнуць з боку праваахоўных органаў. І застаецца адно супакоіцца, а лепшае супакаенне — шпацыр пад парасонам і кава з каньяком.

Па свой спакой я і зайшоў у «Арабіку» і сеў на высакаватае крэсла за вялікую стойку. Стойка цёмная дзяраўляная і чыстая, яна вялікім паўколам займала амаль увесь пакой, сцены якога былі шчыльна абабітыя чырвонай тканінаю. Вузкія акенцы свяціліся цёпла-аранжавымі геаметрычнымі вітражамі. Бармен і афіцыянтка рухаліся хуценька, не раўнуючы, як ільвы ў вальеры. За стойкаю, пры сцяне, узвышалася этажэрка, састаўленая з дыхтоўных арачак, на ёй на круглых сподках залаціліся ватрушкі. Бутэлькі з каньяком абступілі споды, як вежы замкавы пляц. Са столі, забранай светлым паркалем, звісалі на чорных ланцужках стылізаваныя пад сэцэсію сучасныя сакавіта-жоўтыя ліхтары. Карацей, стыль — курортны кіч, і я, каб не псаваць настрой, разгарнуў часопіс. Другая памылка. І ніякіх апраўданняў. Паставіць парасон, сесці да яго спінаю і чытаць часопіс — натуральная правакацыя, сапраўднае спакушэнне. Чалавек бачыць гаспадара, які заняты чытаннем сумніцельнага выдання па псіхалогіі «Alter eco», бачыць выдатны парасон, такую патрэбную ў хмурнай Латвіі рэч і...

А я п'ю каву без цукру і чытаў «Сацыяльна-псіхалагічныя каментарыі да партрэта латышскай сям'і», праглядаў не без цікаўнасці станоўчыя рысы латышскага характару. Любоў да працы. Настойлівасць. Грунтоўнасць. Сентыментальнасць. Не разумею, чаму станоўчыя. Вернасць лёсу і народу. Зазначаў я і не без задавальнення, што з сабой зробіш — задавальненне заўсёды з'яўляецца паперадзе рацыянальнага і разумнага. Адмоўныя рысы. Зайздрасць. Эгаізм. У складальнікаў табліцы выйшла памылка, эгаізм — станоўчая якасць. Выхваленне. Пасіўнасць. Няўважлівасць... Я радаваўся, і не з-за таго, што ў латышоў столькі адмоўных рысаў, а таму, што параўноўваў іх з беларусамі. Мы не горшыя, а толькі іншыя. Але радаваўся я дарэмна, бо, перагарнуўшы старонку, зірнуў у кут і не ўбачыў любімага парасона з бліскучай скураной рукаяццю, ад якога застаўся адно чахол у маёй кішэні.

Першае, што зрабіў — кінуўся на вуліцу. Я стаяў на ганку кавярні і глядзеў на прахожых. Дождж прамацнеў. Па абодвух баках праспекта Дубулты рухалася безліч парасонаў розных: стракатых, жаночых, чорных, сініх, мужчынскіх, празрыстых, дзіцячых... Майго не было. Стаяць без парасона пад дажджом не мела сэнсу. Я вярнуўся ў кавярню і сеў на сваё высокае крэсла. Бармен запытальна паглядзеў на мяне. Я сказаў, што ў мяне ўкралі парасон. Ён паціснуў плячыма і прамармытаў нешта накшталт таго, што яму няма калі глядзець за чужымі парасонамі.

НЕ ЛЮБЛЮ такіх барменаў — нізенькі з прылізанымі валосікамі і тонкімі вусамі цырульніка, якому шанцуе. Такія мужчыны носяць чаравікі на высокіх абцасах, робяць манікюр, пакутуюць на комплекс Напалеона і імкнуцца спадабацца ўсім асобам жаночага полу. У свае вольныя дні яны сядзяць у рэстаранах і прагульваюць не зусім сумленна зробленыя грошы, і перажываюць, што не сталі вялікімі людзьмі. Яны ніколі не адмовяцца ад хабару і ад магчымасці незаўважна ўзяць чужое. Такія бармены не даважваюць, не дадаюць роўна столькі, каб чужы не заўважыў, а свой не пакрыўдзіўся. Такіх тыпаў поўна на курортах, у рэстаранах, барах, кавярнях, басейнах і цырульнях. Бармен з «Арабікі» наогул не выклікаў бы ў мяне цікавасці, каб не знікненне парасона. Я нават мог бы зазначыць, што бармены-мужчыны ў шмат разоў лепш, чым жанчыны. Ён спрытнейшы, робіць усё больш артыстычна, нават таленавіта, але і крадзе незаўважна. І калі ён занёс парасон у падсобнае памяшканне, дык забраць будзе вельмі цяжка.

Знесці маю рэч у падсобку магла і афіцыянтка — плюгкая кабета з пляскатым тварам, на якім бялеў пластыравы крыжык. Ці то нехта ўдарыў пад вока, ці то ўскочыў які струп і яго схавалі пад пластыр? Такіх жанчын звычайна называюць не па імю і не па прозвішчу, а па бацьку — Іванаўна, Пятроўна, Сідараўна... У яе славянскім паходжанні сумненняў не было. Шырокі твар з носам-бульбінаю, маруднасць у руках, адсутнасць ветлівасці і глыбока-глыбока схаваная душа бутлегера. У такіх цётак п'яныя мужчыны пытаюцца пра гарэлку і віно, і ў іх амаль заўсёды знаходзіцца апошняя пляшка за падвойны кошт. Калі для прафесіі бутлегера адшукаць самую адпаведную нацыянальнасць, дык, напэўна ж, гэта будзе расеец. І мяне заўсёды дзівіла, што ў амерыканскіх фільмах пра часы вялікага эканамічнага крызісу трыццатых гадоў усе бутлегеры былі падобныя да расейцаў не вопраткаю і нават не тварамі, а бясконцым жаданнем выпіць самому і напаіць усіх астатніх. Калі кошт майго парасона з канвертаванай валютай перавесці ў саракаградусную вадкасць, атрымаецца літр, а то і паўтара. Так што афіцыянтка магла зрабіць рызыкоўны крок.

І калі я задаў сабе звычайнае ў такіх варунках пытанне — хто ўкраў? — дык адразу і зразумеў, што кожны, хто сядзеў са мной за стойкай і піў каву, мог бы гэта зрабіць. Так заўсёды, зробіць адзін, а падазраеш многіх.

Мне дапамог часопіс «Alter eco», калі я праглядаў табліцы з рысамі латышскага характару, дык раз-пораз паглядаў на прысутных і спрабаваў разгледзець гэтыя рысы на іхніх тварах.

Праваруч ад мяне, у слаба асветленым кутку, сядзела пара латышскіх хіпі ў зношаных джынсовых марынарках, паабчапляных самымі неверагоднымі значкамі ад вялікіх пластмасавых пацыфікаў да рубінавых партрэцікаў Леніна і алюмініевых зорачак. У прыхільнікаў вольнай любові былі доўгія і бляклыя твары, падобныя да кветак, што выраслі ў цяню сабронай вежы. Іх вочы былі шырока расплюшчаныя і мелі вельмі слабую рэакцыю на праявы знешняга свету. Я мог бы паспрачацца, што не прайшло і гадзіны, як гэтая парачка выпаліла апошнюю папяросу з марыхуанай. Хіпі мелі вельмі інтэрнацыянальны выгляд са сваімі доўгімі валасамі, перахопленымі на патыліцах скуранымі раменьчыкамі, замаўлялі каву яны па-латышску. Як сыйшлі хіпі, я не бачыў, таму выключыць іх са спісу падазроных не мог.

*(Працяг будзе).*

# ТАНЦУЕ «КРЫНІЧКА»

Фальклорныя танцы, якія даўно бытуюць на Брэстчыне — «Палескія камарыкі», «Млыночак», «Пелішчанскія карункі» і многія іншыя, сталі галоўнымі ў рэпертуары ўзорнага ансамбля народнага танца «Крынічка» абласнога Палаца піянераў і школьнікаў.

Разам са сваімі кіраўнікамі Валянцінай Міхайлаўнай і Іванам Станіслававічам Траццякамі юныя артысты з цікавасцю вывучаюць славянскія фальклорныя танцавальныя кампазіцыі, авалодваюць іх неўміручай прыгажосцю, нацыянальным каларытам, фальклорнымі асаблівасцямі.

За сем гадоў існавання ансамбля «Крынічка» юныя танцоры адрадзілі і паказалі гледачам каля сарака самабытных і арыгінальных беларускіх танцаў. Ім апладзіравалі ўдзячныя гледачы Украіны, Літвы і Расіі, а таксама Люблінскага і Бялападляскага ваяводстваў Польшчы. Дзіцячы калектыў — лаўрэат другога Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

НА ЗДЫМКУ: ансамбль выконвае кампазіцыю «Пелішчанскія карункі».

Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛТА).



*Абразкі*

# У кожнага сваё

БЕЛАРУСАЎ, якім даводзіцца часова бываць за межамі рэспублікі, заўсёды пазнаюць, хоць многія стараюцца там гаварыць, як ім здаецца, чыста па-руску. Аднаго выдае густое наша «ч», другога — звонкае «дзь». Я, прыкладам, ведаю ў Мінску кандыдата гістарычных навук, які праз усё жыццё гэтак і не навучыўся гаварыць слова «радыё» ці «радио». У яго вуснах заўсёды гучала па-руску і па-беларуску «радзіва», і з гэтай «бядой» ён так і не справіўся. Але дакараць яго я не збіраюся, бо тут размова пра іншае. Мяне цікавіць маўленчая прырода беларуса. Не кожнаму з нас лёгка даюцца гукі [р'], [ г'], [ т'], [ д']. Па іх пазнаюць у рускамоўным беларусе беларуса. Часта абруселага беларуса выдае і нехарактэрны для рускай мовы сінтаксіс тыпу «смеялся с него» (а не «смеялся над ним»). Але гэта рэчы відавочныя. А ёсць і больш складаныя, тонкія, якія выклікаюць самыя нечаканыя непаразуменні.

Прыгадваецца адзін выпадак у ялцінскім санаторыі. Абедаем, нас за сталом чацвёра. Трое рускіх і я — беларус. Сядзім, спажываем страву за стравай, зрэдку перакідваемся словам. Раптам у адной дамы выслізнуў з рукі відэлец і зваліўся на падлогу. Я і кажу: «Кавалер да вас спяшаецца! Ёсць такая прыкмета...» Яна здзівілася: «Почему «кавалер»? Ведь вилка — она, женского рода?» Тут я мусіў патлумачыць, што рускае слова «вилка» па-беларуску гучыць «відэлец» і мае мужчынскі род. На гэтым наша непаразуменне скончылася. Але я падлавіў сябе, што, знаходзячыся ў рускім асяроддзі, усё ж думаю па-беларуску, што родная стыхія мацнейшая за ўсе іншыя, якія да мяне прыйшлі пазней праз кнігі.

Аднак вернемся да разваг пра род. Як вядома, у беларускай і рускай мовах ёсць шэраг слоў, якія хоць гучаць аднолькава, усё ж маюць розны род. Вось некаторыя з іх — «сабака», «шынель», «медаль», «мазоль», «боль»... У беларускай мове яны ўсе мужчынскага роду, у рускай — жаночага. Мяне гэтая з'ява даўно зацікавіла. Дзіўна гэта: два роднасныя народы, у якіх, паводле афіцыйнай версіі, адна моўная аснова, а такое родавае разыходжанне! Як гэта сталася?

Калісь спрабаваў высветліць у больш вопытных мовазнаўцаў, чаму так? У якой мове род згаданых слоў найбольш аб'ектыўна адлюстроўвае рэчаіснасць? Але выразнага адказу ні ад каго не пачуў. Давялося дадумваць самому. На маё меркаванне, згаданым тут словам больш адпавядае мужчынскі род, як гэта і ёсць у беларусаў. Скажам, словы «медаль», «шынель» найперш былі калісь пераважнай прыналежнасцю мужчын, то, мусіць, і ў беларусаў за імі і замацаваўся мужчынскі род.

...Мова — гэта бязмежны акіян. У ёй гэтулькі загадкавага, таямнічага, гэтулькі нераскрытага, неразгаданага, і наш клопат спазнаваць гэтыя таямніцы.

Хай жа ніколі і нікога з нас не пакідае жывая цікавасць да слова. У ім увесь наш гістарычны вопыт, наша псіхалогія — усё тое, што складае сутнасць беларуса, яго самабытнасць. Будзем жа заўсёды ўважлівымі да слова, да мовы.

Уладзімір СОДАЛЬ.

*І смех і грэх* *І смех і грэх*

*Васіль ЖУКОВІЧ*

## ПАЗІЦЫІ

ВЕРШАВАНАЯ ХРОНІКА ПЕРАВАРОТУ

### Гарачы жнівень

Хунце карціць
жыцці касіць,
танкамі жаць...
Рукі дрыжаць.
20.08.91 г.

Хто Андрэеву прыгрэў,
сталінізму фею,
хто прыхільна хунту стрэў?
Ці ж не Малафееў?
22.08.91 г.

### Маўчанне — не золата

Калі Кручкоў
«апошні бой» пачаў,
змагаўся Ельцын.
Дзямянцей?
Маўчаў.
23.08.91 г.

### Апошні бастыён

Бярэцца скрозь
рэакцыя ў палон,
каб не прайшлі ГУЛАГаў
авантуры.
Яе апошні бастыён? —
Чырвоная наменклатура.
24.08.91 г.

*Сямён АЛЬТАЎ*

## ТРАЯНСКІ КОНЬ

Аж дзесяць гадоў доўжылася асада Троі. Шмат вялікіх герояў загінула ля яе сцен. Ніяк не маглі грэкі захапіць горад. І тады Адысей вырашыў пайсці на хітрасць. Па яго прапанове быў пабудаваны велізарны драўляны конь, у якім маглі схавацца самыя магутныя грэкі. Астатнія войскі павінны былі нібыта адплыць у мора. Траянцы падумаюць, што асада знята, і зацягнуць каня ў горад. А ноччу воіны выйдуць з каня і адкрыюць вароты грэкам, якія патаемна вернуцца назад. «Пераб'ём сонных — і возьмем Трою!» Такім быў хітрамудры план Адысея. Усё гэта было сказана шэптам пры закрытых дзвярах, вядома, зусім сакрэтна.

Праз гадзіну адзін верны чалавек пранік у Трою, у палац Прыяма, і папрасіў паведаміць, што прынёс траянцам сакрэтныя звесткі наконт грэкаў. Цар Прыям загадаў даведацца: а ці цалкам сакрэтныя звесткі?

Прыяму далажылі, што ён не пашкадуе — больш сакрэтных не бывае! Тады цар распарадзіўся, каб упусцілі шпіёна. Той паведаміў: так, маўляў, і так, рыхтуецца ваенная хітрасць! Грэкі хочуць падкінуць драўлянага каня, цалкам «нашпігаванага» воінамі, і тады вам канец, майце на ўвазе!

Падзякаваў цар Прыям за каштоўную інфармацыю і пачаў меркаваць. Тым часам адзін верны чалавек ужо прабраўся ў лагер грэкаў і паведаміў Адысею, што траянцы ўжо ведаюць пра задуманае грэкамі, але папярэдзіў: звесткі — абсалютна сакрэтныя. Пажадана, каб ніхто аб гэтым не ведаў. Аб чым хутка і далажыў Прыяму адзін верны траянцам грэк. Маўляў, грэкі ведаюць, што траянцам вядомы планы грэкаў.

Цар Прыям з аднадумцамі пачаў аналізаваць няпростую сітуацыю, папярэдне акружыўшы палац самымі надзейнымі людзьмі. Але траянцы яшчэ не паспелі толкам параіцца, як двое верных людзей з ліку надзейных ужо данеслі Адысею вынікі траянскага аналізу. Маўляў, улічыце, траянцы даведаліся, што грэкі ведаюць, што яны ведаюць, што вы ў курсе таго, што яны маюць сакрэтныя звесткі адносна ваеннай хітрасці пры дапамозе каня.

— Каб вы працавалі так, як працуе наша разведка! — ускрыкнуў Адысей і дадаў шэптам, звяртаючыся да самых блізкіх грэчаскіх герояў:

— Заўтра рызыкнём! Але ні адна жывая душа аб гэтым не павінна ведаць! Я веру вам, як самому сабе! Так Прыяму і перадайце!

Так Прыяму і перадалі.

— Хопіць! — узарваўся Прыям. — Усе нашы сакрэты вядомы грэкам, а сакрэты грэкаў — нам! Як ваяваць у абставінах поўнага даверу?! Гэта ўсё хітрыкі Адысея! Дэзінфармацыя! Кажаце, грэкі на заўтра задумалі хітрасць?! А я не веру! Пляваць я хацеў на Адысея!

Як толькі Адысею стала вядома, што Прыям хацеў на яго пляваць, ён сказаў:

— Пара!

Пакінулі грэкі ля варот Троі драўлянага каня, а самі пагрузіліся на караблі і нібыта адплылі ў мора.

Траянцы, радуючыся канцу аблогі, з песнямі ўцягнулі каня ў горад і пачалі балякаваць. Ноччу, калі ўсе спалі, воіны-грэкі вылезлі з каня, і немінучая гібель пагражала б соннай Троі, калі б воіны, якія сядзелі ўнутры каня, не аказаліся людзьмі, вернымі траянцам. Але яны не ведалі, што траянцы, якія быццам спалі вакол каня, былі не столькі траянцамі, колькі людзьмі Адысея. І таму, калі не грэкі, а траянцы накінуліся не на траянцаў, а на грэкаў, то апошнія перабілі першых. Ці наадварот?..

Адным словам, Адысей уварваўся ў горад і на ўсякі выпадак перабіў усіх без разбору.

Захапіўшы нарэшце Трою, хітрамудры Адысей сказаў узятаму ў палон Прыяму:

— Трэба верыць людзям!

Пераклала на беларускую мову Любоў ЛАМЕКА.

# Лякарня чараўніцы Потахі

**Вятроўнік вязалісты.** Ужываюць чай з кветак вятроўніка 15 г на 1 л вады як мачагонны сродак пры нефрытах, захворванні мачавога пузыра, рэўматызме, падагры, а таксама пры болю ў страўніку.

***Хай здароўе і шчасце вас не пакідаюць («Ніва»).***

Пры захворванні мочапалавых органаў, пры вадзянцы, рэўматызме і падагры прымяняюць наступную сумесь: кветак вятроўніку — 10 г, лісця талакнянкі — 15 г, травы гладуну — 10 г, слупкоў (ніцяў) кукурузы — 15 г, палавінак струкоў фасолі, кораня бузіны травяністай — 15 г, бярозавых пупышак — 15 г, хвашчу — 10 г, травы спарышу — 10 г, пялёсткаў васілька — 10 г. Усё змешваюць, бяруць 4 сталовыя лыжкі (кожная з верхам) гэтай сумесі, залiваюць з вечара 1 л сырой вады, а раніцай кіпяцяць 5—10 мінут, пакідаюць і яшчэ напарваюць паўгадзіны, пасля чаго працэджваюць і выціскаюць. П'юць цёплым за 6—7 разоў на працягу дня.

***Спажывайце на здароўе (Грынблат).***

Пры моцным болю ў страўніку выпіваюць за 4—6 разоў у дзень напар (але не адвар), які настоіцца, з наступнай сумесі: кветкі вятроўніку, лісце любой крапівы, травы святаянніку; кожнага кампаненту па 2 сталовыя лыжкі і ўсё на 3—4 шклянкі кіпетню.

***Прадаўжы, Божа, веку добраму чалавеку (Федароўскі).***

**Суніцы лясныя (звычайныя).** Суніцы (уся расліна і плады) — вельмі папулярны ў народзе лекавы сродак і вельмі шырока прымяняецца пры розных хваробах.

Перад тым як разглядаць лекавае значэнне суніц наогул (лісця і ягад), мы павінны папярэдзіць чытача, што не ўсе людзі беспакарана могуць есці гэтыя смачныя, духмяныя ягады, таму што арганізму некаторых людзей суніцы шкодзяць: усё цела пакрываецца сыпам, пухірамі, пачынаецца сверб цела, боль у жываце, галавакружэнне, ваніты.

**Няхай табе галава не баліць (*Федароўскі*).**

Напар лісця суніц 50 г на 1 л вады ў народзе ўжываюць для ачышчэння крыві, пры сыпах, пухірах, лішаях, рахіце, залатусе, пры падагры, гастрытах, пры захворванні печані і селязёнкі, катары тоўстых кішак, гемарою, жаўтусе.

Для лячэння суніцы проста ядуць сырымі, але не варанымі ці сушанымі. Ядуць адны ці з малаком, смятанкай, цукрам (іншы раз і з вінам). Ёсць афарызм: у тым доме, дзе ядуць суніцы ці чарніцы, урачу нечага рабіць.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.064. паасобнікі. Заказ 2458. Індэкс 74975.